РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №18. 10 МАЯ 1993 ГОДА.

СЁННЯ:



Беларусь і Нямеччына



■ стар. 4 — 5



# Дзень ПЕРАМОГІ

## ЗНАК ЧАЛАВЕКА

■ стар. 6

«ПЕРШЫ ДЗЕНЬ МІРУ».

*Такім сябе запомніў мастак. Салдат Леанід Шчамялёў...*

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

1 мая ўступіў у сілу Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Асноўная мэта Закона — рэгуляванне адносін з мэтай зберажэння, належнага ўтрымання, аднаўлення і памнажэння гісторыка-культурнай спадчыны.

«Гісторыка-культурная спадчына народа Беларусі, — запісана ў Законе, — створаная ім падчас фармавання і існавання як ва ўласных дзяржаўных структурах (у Полацкім і іншых старажытных княствах, Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, БНР, БССР), так і ў складзе іншых дзяржаўных фармаванняў (Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, СССР), з'яўляецца яго набыткам, неад'емнай часткай дасягненняў сусветнай цывілізацыі. Яе духоўныя, мастацкія і дакументальныя вартасці ствараюць неабходныя ўмовы духоўнага, інтэлектуальнага і эканамічнага развіцця грамадства».

* * *

Калегія Міністэрства культуры РБ з удзелам кіраўнікоў усіх творчых саюзаў рэспублікі разгледзела прапановы для ўнясення ў Праект Пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета РБ «Аб дзяржаўнай падтрымцы мастацкай творчасці і работнікаў мастацтва ў РБ». У Праекце Пастановы адзначаецца асаблівая роля развіцця беларускай літаратуры і мастацтва ў духоўным аднаўленні нацыі, маральным, эстэтычным і патрыятычным выхаванні грамадзян Беларусі.

Складаны сацыяльна-эканамічны стан грамадства ў апошнія гады ставіць пад пагрозу духоўны, інтэлектуальны патэнцыял творчай інтэлігенцыі рэспублікі, стварае складаныя ўмовы для развіцця новых тэндэнцый мастацкай творчасці ў рэчышчы адраджэння нацыянальнай беларускай культуры. Патрабуецца шэраг мер для падтрымкі мастацкай творчасці, асобная ўвага да дзеячаў мастацтва і літаратуры з боку заканадаўчых органаў, Урада Рэспублікі Беларусь, мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

* * *

Міжнародны музычны фестываль «ФЭВДА ДЖЭМАП АНД» прайшоў у Турцыі ў г.Анкара. Рэспубліку Беларусь на гэтым фестывалі прадстаўлялі два вядучыя калектывы: Дзяржаўны акадэмічны народны хор РБ імя Цітовіча і Дзяржаўны акадэмічны аркестр РБ імя Жыновіча. Афіцыйную дэлегацыю ўзначаліў першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь У.А.Гілеп.

* * *

У Мінску, Гомелі, Магілёве, Брэсце прайшоў беларуска-італьянскі фестываль з удзелам італьянскага камернага хору «Сябры Абантэ». Ад Рэспублікі Беларусь у фестывалі прынялі ўдзел Дзяржаўны ансамбль «Свята», гурт народнай песні «Купалінка» і ансамбль Магілёўскай абласной філармоніі «Барыня».

У рамках фестывалю адбыўся канцэрт у зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

## ВЫДАННЕ КАШТОЎНАЕ, ДОЎГАЧАКАНАЕ

Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла кнігу Міколы Шчакаціхіна (1896 — 1940) «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва», прымеркаваўшы выхад яе да 75-й гадавіны з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускае Народнае Рэспублікі. Кніга выйшла пад грыфам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

«Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» з'яўляюцца перавыданнем першага (і, на жаль, адзінага) тома галоўнай працы нашага выдатнага навукоўца, які распрацаваў стройную канцэпцыю гісторыі беларускага мастацтва і заклаў асновы нацыянальнага мастацтвазнаўства.

Аўтар прааналізаваў мастацкае развіццё Беларусі ад найстаражытнейшых формаў эпохі родавага ладу да такіх складаных і дасканалых, як бажніцы абарончага тыпу XVI стагоддзя. Асноўную ўвагу М.Шчакаціхін аддаў старажытнаму дойлідству, найбольш пераканаўчым яго здабыткам. Прасачыў шляхі развіцця архітэктуры Беларусі ад манументальных культавых збудаванняў перыяду Полацкага і Смаленскага княстваў праз замкавае будаўніцтва (выкліканае да жыцця экспансіяй крыжакоў) да шэдэўраў беларускае готыкі ў Вільні, Супраслі, Сынкавічах, Мала-Мажэйкаве (Мураванцы), якія, паводле ягонае думкі, уяўляюць беларускі сінтэз усходніх і заходніх мастацкіх традыцыяў.

Немалы наклад кнігі — 10000 паасобнікаў — робіць яе даступнай не толькі для навукоўцаў, але й для ўсіх, хто цікавіцца беларускім мастацтвам.

Зміцер САНЬКО.

## КІРМАШ «ГУЛЬНІ І ЦАЦКІ»

20 мая адкрыецца кірмаш «Гульні і цацкі». Гэта сумеснае вялікае тэатралізаванае свята на мяжы двух мерапрыемстваў: закрыццё рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Дзіцячы сад: сёння і заўтра» (17 — 20 мая) і адкрыццё 2-га Міжнароднага фестывалю тэатраў лялек (20 — 27 мая). Арганізатарамі з'яўляюцца: міністэрствы адукацыі і культуры, Саюз тэатральных дзеячаў, Беларускі навукова-метадычны цэнтр гульні і цацкі, Саюз майстроў народнай творчасці, упраўленні адукацыі і культуры Мінгарвыканкама.

Акрамя дзяцей, педагогаў, артыстаў-лялечнікаў, народных майстроў, вытворцаў цацак з Беларусі, у кірмашы прымуць удзел госці з краін СНД, а таксама Англіі, Аўстрыі, Бельгіі, Германіі, Галандыі, ЗША, Іспаніі, Італіі, Нідэрландаў, Польшчы, Фінляндыі, Францыі, Чэхіі, Швецыі.

Запрашаем усіх на свята.

АРГКАМІТЭТ

## ПРЫМАЛІ ПРАГРАМУ ДОБРА

Днямі Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь здаваў сваю новую праграму.

... У вялікай зале філармоніі напачатку панавала атмасфера чакання.

Гэты «цэкоўскі» ансамбль намазоліў вочы сваіміараднымі танцамі на ўсіх былых святах! — падзяліўся думкамі з суседам стары дзядок.

— Чаго ж вы прыйшлі? — не вытрымала я.

— А можа, яшчэ людзьмі стануць. Кажуць, новая праграма нішто сабе...

Ішоў канцэрт, і было відавочна — мастацкі кіраўнік ансамбля Валянцін Дудкевіч сапраўды ў пошуку новага. На сцэне віравала кампазіцыя «Каляды», дзе, праўда, час ад часу прарываліся гогалеўскія асацыяцыі (чорт ускокваў герою на плечы і скакаў у рытме гапака), і гэтая кампазіцыя была зроблена з густам.

У другім аддзяленні былі змешчаны танцы іншых народаў. І трэба сказаць, што і татарскі, і яўрэйскі (і некаторыя іншыя) танцы былі вырашаны на высакародным, не пабытавым, філасофскім узроўні. Варта сказаць, што яўрэйскі танец быў біблейскім, у нечым нават бедуінскім і нагадваў распаленую пустэльню на беразе мора і жыхароў яе, што ўпершыню ўбачылі Бога...

А татарскія касцюмы былі якраз такія, у якіх змагаліся татарскія воі на баку Вітаўта...

Касцюмы — гэта ўвогуле вялікая ўдача мастачкі Айшы Александровіч. Густ і творчая вынаходлівасць, цнатлівасць і багацце фарбаў проста ўражвалі. Здаецца, што з гэтымі касцюмамі можна было б зрабіць нават «Тэатр моды». А чаму б і не?

Прымалі новую праграму добра. Было шмат апладысментаў, добрых слоў. Бачна было шмат знаёмых твараў. І, паводле слоў В.Дудкевіча, наш вядомы рэжысёр Валеры Мазынскі знайшоў тут колькі нумароў для будучага канцэрта перад беларусамі свету ў ліпені...

Таццяна ЯГОРАВА.

## У «БЕЛАРУСКАЙ ГАСЦЁЎНІ» — БЕЛАРУСКАЯ ШЛЯХТА

«Беларуская гасцёўня» з'явілася ў Магілёве на пачатку гэтага года. Ініцыятарамі стварэння яе сталі Магілёўская філія Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра і гарадскі Дом культуры. Першая вечарына прайшла ў лютым і была прысвечана 130-й гадавіне паўстання 1863 — 1864 гг. на Беларусі, у Польшчы і Літве. Госцем Магілёва быў гісторык і філосаф, «чалавек года» — 92, спадар Вячаслаў Шалькевіч.

Нядаўна адбылася чарговая вечарына ў «Беларускай гасцёўні». У госці да магілёўцаў завіталі кіраўнікі Згуртавання беларускае шляхты спадары Анатоль Грыцкевіч і Леанід Акаловіч. Яны расказалі пра гісторыю беларускай шляхты, дзейнасць Згуртавання ў рэчышчы нацыянальнага Адраджэння. Напрыканцы вечарыны быў створаны камітэт па арганізацыі Магілёўскай філіі Згуртавання беларускае шляхты.

Рэпліка

## КАЛІ НАБУДЗЕ АДУКАЦЫЮ МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ?

Жыццё многіх сённяшніх кніг, як калісьці дысертацый на палітыка-эканамічныя тэмы, складанае. Тады — не паспееш напісаць дысертацыю па кукурузе, як трэба рыхтавацца да перапрафілёўкі — напрыклад, «зернавыя культуры на Малой Зямлі» ці што іншае... Цяпер жа — напішаш пра прэзідэнта Савецкага Саюза, а ён ужо стаў прэзідэнтам міжнароднага фонду, а кніжка тым часам выдаецца...

Таму не дзіва, што і ў новай, выдадзенай у мінулым годзе кнізе «Нямецкая мова» для студэнтаў нямоўных спецыяльнасцяў педінстытутаў поўны, як кажуць па-руску, «ералаш». З раздзела «Наша Радзіма» студэнты педінстытутаў даведваюцца, што наша радзіма — гэта Савецкі Саюз, дзе вышэйшая ўлада належыць Вярхоўнаму Савету СССР, а таксама што яна (наша радзіма) «адносіцца да найвялікшых індустрыяльных краін свету», не кажучы пра тое, што клімат яе — арктычны, кантынентальны, субтрапічны і г.д. Вядома ж, наша сталіца — Масква, яна «наша палітычнае, навуковае і сельскагаспадарчае сэрца». У раздзеле «Песня пра Арбат» нашы студэнты (у тэкстах гэта Пётра і Віталь) будуць доўга расказваць адзін аднаму, што Масква надта прыгожая ў любую пару года. І гэтак далей, і гэтак далей...

«Знайшлі чым здзівіць! — скажаце вы. — Пакуль рыхтавалася кніга, усё памянялася».

Э, не, дарагі чытач! Нашы аўтары — У.Будзько, З.Галаўко (ці, можа, Галоўка — кніжка ж выдавалася на рускай мове) і Р.Кавальчук ужо ведалі, што Беларусь стала незалежнай суверэннай дзяржавай, што і знайшло-ткі сваё адлюстраванне ў тэксце «З гісторыі Беларусі».

Прызнаюся, менавіта да гэтага тэксту пацягнулася мая рука і мае вочы. Што ж раскажуць нашы Пётра і Віталь пра Беларусь? Аднак расказвалі іншыя — коратка і суха. З гэтага артыкульчыка мы даведаліся, што...

«У першым тысячагоддзі нашага часу сяліліся на беларускай тэрыторыі славянскія плямёны, якія ў пачатку IX стагоддзя адносіліся (належалі) да рускай дзяржавы, Кіеўскай Русі...»

Што «ў XIII стагоддзі ўсходнія княствы Полацк і Турава-Пінск падпарадкаваліся Вялікаму княству Літоўскаму».

Што «амаль 200 гадоў знаходзіўся беларускі народ пад польскай уладай», а пасля падзелу Польшчы — «пад рускай уладай».

Узяўшы гэты перадрук з «НБІ», аўтары як бы адгарадзіліся ад напісанага: «маўляў, гэта не мы сачынялі!».

Дзіва, што не ўзялі яны перадрук з «Вестника Северо-Западного края»...

Дапускаю, што, апроч кафедры нямецкай мовы Смаленскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя К.Маркса, не знайшлося ў Беларусі спецыялістаў-рэцэнзентаў і адпаведнай кафедры, каб адрэцэнзаваць падручнік.

Дапускаю таксама, што рэдактар выдавецтва «Вышэйшая школа» В.Гаўрылаў не толькі не ведае нямецкай мовы і не змог указаць аўтарам на неадпаведнасць рэалій кнігі рэаліям сённяшняга дня, але і ўвогуле не ведае гісторыі Беларусі. Аднак, каб не ведала гісторыі сваёй дзяржавы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, якое, як напісана на тытульным аркушы, «дапусціла» кнігу да друку, гэта ўжо нонсенс! Той-сёй скажа, маўляў, малы тыраж: 3680 экземпляраў. Але памножце гэтую лічбу на колькасць студэнтаў, што займаюцца ў кожнай групе I — III курсаў педінстытутаў, і на колькасць інстытутаў. І вы заплюшчыце вочы з адзінай думкай — расплюшчыць іх тады, калі наша «адукаванае» Міністэрства стане сапраўды тым, кім яно называе сябе на вокладцы гэтага (далёка не адзінага) такога кшталту падручніка...

Таццяна ДАЛГОВА.



### ПАЧУЛІ ДАЎНО ЗАБЫТАЕ

Вашу газету чытаю з першага нумара. Гэта падручнік для вясковага клубнага работніка.

Я ўдзячна Вам за сцэнары, якія друкуюцца на старонках «Культуры». Днямі на клубнай сцэне правялі велікоднае свята. Асновай паслужыў сцэнар, які мы прачыталі ў газеце. На сцэне гучалі песні нашага краю. Я бачыла слёзы на вачах старых людзей нашай вёскі, якія пачулі даўно забытую матчыну песню, успомнілі велікодныя звычаі, рытуалы нашых мясцін.

Дзякуй Вам вялікі!

Я.ЕРМАЛОВІЧ,
Дзяржынскі раён, в.Чэчына.

### ТЫДЗЕНЬ МІЛАСЭРНАСЦІ

На сцэне Докшыцкага цэнтра культуры адбыўся дабрачынны канцэрт у рамках «Тыдня міласэрнасці». У ім прынялі ўдзел мастацкія калектывы раёна: ансамбль «Раніца», народны тэатр, «Тэатр мініяцюр».

Добрую справу зрабіў цэнтр культуры. Малазабяспечаныя сем'і атрымалі грошы, якія былі сабраны ў час канцэртаў.

І.ФУРСЕВІЧ,
г.Докшыцы.

# І ЖУК, І ЖАБА, І ЧОРТ, І БАБА

## Вясёленькая збярэцца кампанія, калі адбудзецца Першы з'езд беларусаў свету

«Каб табе жыць у эпоху пераменаў!» — клялі адзін аднаго старажытныя кітайцы ў хвіліны лютых сварак. І былі надзвычай дакладнымі ў вызначэнні найгоршага пакарання, бо час зменлівасці, няпэўнасці, няўстойлівасці ў мэтах, сябрах і ідэалах перажыць цяжэй, чым любую эпідэмію ці прыродны катаклізм.

Нам, беларусам, у гэтым сэнсе не пашанцавала. Вось ужо некалькі гадоў мы жывём пад знакам пераменаў — пераменаў не толькі ў дзяржаўным ладзе краіны, але і ў свядомасці. Дакладней, калі ўжо быць абсалютна непрадузятым, жывём мы ў час выкрышталізацыі пазіцый, удакладнення самых найдрабнейшых аспектаў светапогляду кожнага з нас. І сюрпрызы на гэтым шляху чакаюць часам немалыя: сябра раптам становіцца ўсяго знаёмым, паплечнік — здраднікам, а вядомы разумнік — неабачлівым авантурыстам. У гэткіх варунках пераадолець самога сябе, зламаць інерцыю ўласнага мыслення — справа неабходная, а ў нейкім сэнсе і высакародная.

Усе мы памятаем, як нечакана прагучала заява Сойму Беларускага народнага фронту ад 13 лютага аб няўдзеле гэтай арганізацыі ў Першым сходзе беларусаў свету. Шырокай грамадскасці краіны тады давялося нямала памучыцца, вызначаючы гэты дэмарш БНФ і наступную Заяву Управы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» ці то як незразумелы крок «фронтаўцаў», ці то як непаслядоўную і ў нейкім сэнсе здрадніцкую пазіцыю ЗБС. Справа ўскладнілася тым, што антыбеларускія сілы ў краіне пачалі ў адкрытую смакаваць канфлікт у лагеры патрыётаў, здзекуючыся аднолькава як з адных, так і з другіх.

І вось мінула тры месяцы, не так шмат засталося і да аб'яўленай даты з'езда, і, бадай, надышоў час зрабіць некаторыя высновы.

Фронт і Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, якая падтрымала БНФ, аргументуюць свой крок немагчымасцю супрацоўніцтва з сённяшнім урадам у справе мацавання ўсебеларускага яднання.

Вось, напрыклад, цытата з Заявы выканкама БСДГ:

«Беларусы за мяжой павінны ўсвядоміць, што ўлада ў Рэспубліцы Беларусь належыць посткамуністычным структурам. Гісторыя паказала ўсю іх няшчырасць, вераломства і падступства. Склікаць з'езд беларусаў свету ў гэтым годзе немэтазгодна. Паслухмяныя сродкі масавай інфармацыі выкарысталі б з'езд дзеля агітацыі за цяперашні ўрад».

І далей Грамада вылучыла сваю ініцыятыву — аб скліканні III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі, у якой прынялі б удзел усе апазіцыйныя палітычныя партыі і арганізацыі Беларусі і замежжа. Менавіта такі форум здолеў бы абмеркаваць і даць ацэнку сённяшняй палітычнай сітуацыі на Беларусі.

Што ж, за мінулыя тры месяцы вады сплыло шмат, і калі аргументы праціўнікаў з'езда набылі яшчэ большую вастрыню і актуальнасць, то адсутнасць новых заяў з боку ЗБС «Бацькаўшчына» можна расцэньваць ужо і як нежаданне глянуць праўдзе ў вочы.

Праўда ж у тым, што з'язджацца беларусам з усяго свету, каб піць гарэлку і скакаць праз купальскія вогнішчы ў абдымку з прадстаўнікамі сённяшняга ўрада — справа няўдзячная. Вельмі шмат гадоў нават на сваёй зямлі не мелі мы права звацца беларусамі, не кажучы ўжо пра тое, каб заявіць пра існаванне беларусаў у іншых краінах свету. Даўно, па паняццях сённяшняга імклівага часу, сядзелі ў студыі «Астанкіна» на праграме Малчанава «Да і пасля паўночы» рускія князі-эміграны, але толькі зусім нядаўна, і то неяк неафіцыйна, без прабачэння, эмігранты-беларусы займелі права звацца неяк інакш, чым «фашысцкія найміты». Толькі дзякуючы таму, што мы атрымалі нарэшце сваю краіну, сваю Беларусь, мы здолелі звацца суайчыннікамі — чаго да абвяшчэння суверэнітэту агульнай Айчыны мы па сутнасці не мелі.

І ўвесь гэты час беларусы Еўропы, Амерыкі і Аўстраліі захоўвалі апазіцыйныя настроі да ўрада камуністычнай марыянетачнай Беларусі, захоўвалі традыцыі і дух вольнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дык няўжо час так змяніўся, няўжо мы сапраўды атрымалі ўрад народнага даверу, каб вось так бяздумна і даверліва выпіць на брудэршафт з тымі, хто гатоў змарнаваць мільёны з кішэні падаткаплацельшчыкаў, абы займець маральнае права звацца беларускім урадам?!

Не!

З усёй сілай пры дапамозе камуністычнай большасці Вярхоўнага Савета гэты ўрад змагаецца за скасаванне нашага нейтралітэту, уцягваючы Беларусь у ваенны блок з Расіяй. З усёй сілы супраціўляецца гэты ўрад станаўленню абавязковых атрыбутаў дзяржаўнасці, заганяючы нас у эканамічны саюз з катастрафічна нестабільнай імперыяй. Сённяшні ўрад — гэта людзі, якія жадаюць дзяржаўнага двухмоўя на Беларусі. Людзі, якія мараць пра двайное грамадзянства ў нашай краіне. Людзі, якія збяёдалі некалькі гадоў упустую, не спрабуючы перавесці эканоміку дзяржавы ў патрэбнае рэчышча, а сёння ўзнялі крык пра адзіны выратавальны крок — у абдымкі да вялікага суседа.

Прыгледзьцеся — у мінулым галоўны ідэолаг КПБ, люты вораг беларускай ідэі, які ў самы няпэўны для камуністаў час адседзеўся ў Расійскай кампартыі, сёння стаў прарэктарам Акадэміі кіравання пры СМ і з экранаў БТ тонам шчырага прапаведніка разважае пра лепшую долю для Беларусі.

Прыгледзьцеся — чалавек, які ў свой час асабіста прынёс у «Вечерний Минск» знакаміты артыкул «Пена на волнах перестройки», у хуткім часе стаў настолькі прыязным беларускім хлопцам, так добра пад'ехаў да многіх з дэмакратаў і многіх з эмігрантаў, што неяк і праўда паверылася ў шчырасць яго дзеянняў. Аж пакуль з самай высокай трыбуны ён не заявіў пра неабходнасць яднання з Расіяй, забыўшыся на свае ж мары бачыць Мінск другім Бруселем — цэнтрам еўрапейскага супрацоўніцтва.

Прыгледзьцеся — былы першы (пасля партыйнага боса) чалавек у БССР, а потым лепшы дарадца Гарбачова і Лук'янава ў справе захавання СССР, сёння зноў тут, на Беларусі, і стварае стратэгічныя ініцыятывы для гэтай краіны.

А што казаць пра іншых, якія за два гады калі і змянілі свой сацыяльны статус, то толькі ў парадку павышэння па службовай саўмінаўскай лесвіцы.

І з гэтымі людзьмі ладзіць беларускае Купалле? З імі радавацца сонцу, небу і гэтай зямлі і задаваць адзін аднаму адвечнае філасофскае пытанне «Ты мяне паважаеш?»?!

Адказаць на пытанне пра тое, каго ж можна сёння паважаць, на мой погляд, сапраўды здолее толькі III Усебеларуская палітычная канферэнцыя. Гэта мог бы стацца якраз той форум, які стварыў бы сапраўдную шырокую апазіцыю камуністычным і антыбеларускім сілам у нашай краіне. І менавіта ў гэтай справе варта яднацца беларусам радзімы і далёкага ды бліжняга замежжа.

Трэба, на мой погляд, зразумець, які сур'ёзны праціўнік у Беларусі. Камуністы ўжо даўно ачунялі ад жнівеньскага выспятка, згуртаваліся і пайшлі ў апошні бой. Падзеі Першамая ў Маскве яскрава сведчаць, што ні маральныя, ні юрыдычныя законы для чырвона-карычневых не існуюць. Яны, як і заўсёды, гатовыя праліць мора чалавечай крыві, дасягаючы сваіх мэтаў. І пільнасць у адносінах з «таварышамі» будзе зусім не лішняй. Супакоіцца і расслабіцца па-сапраўднаму можна будзе толькі тады, калі камуністычная ідэя будзе забаронена да тых часоў, пакуль яна не трансфармуецца ў больш цывілізаваныя, эвалюцыйныя формы накшталт камунізму французскага або італьянскага.

І вось тады ля купальскага вогнішча збяруцца не жук і жаба, не чорт і баба, а Беларусы. Збяруцца, каб удыхнуць на поўныя грудзі паветра волі, каб пераскочыць праз агонь і спаліць усе праклёны, і шчыра павіншаваць свой сапраўды народны ўрад.

P.S. Не хацеў бы распаўсюджваць плёткі, але факт падаецца настолькі важным, што не магу не паведаміць яго нашым чытачам. Інфармацыя, яшчэ раз падкрэслю, не правераная, але ў палітычных колах ходзіць чутка пра тое, што ганаровы старшыня «Бацькаўшчыны» Васіль Быкаў пакідае гэтую пасаду.

**Максім ГІЛЕЎСКІ.**

*Ад рэдакцыі:* Мы разумеем, што думкі, выказаныя ў гэтым артыкуле, могуць выклікаць палеміку. «Культура» гатова прадаставіць старонкі ўсім, хто хоча падзяліцца пэўнымі меркаваннямі з нагоды маючай адбыцца падзеі.

# ВАЙНА ПАД «ДАХАМ»

Чытаць казкі — асалода. Усё ў іх ёсць — што было, што ёсць і што будзе. Бяры любую — і рабі выснову на ўсе выпадкі жыцця...

Ну вось, возьмем хаця б такую, усім вядомую: «Была ў зайца хатка драўляная, а ў лісы лядзяная...»

Наш спрактыкаваны чытач адразу ж засумуе: падумаеш, навіна! Ну, пусціў добранькі Заяц хцівую Лісу, а пасля доўга выкурваў яе з уласнай хаткі пры дапамозе розных памагатых... Што тут новага? Апроч дзеючых асоб — нічога. Яны ў гэты раз — не зусім звычайныя.

Прапануем сучасны варыянт казкі: Заяц — Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі. Памагаты — Гаспадарчы суд Мінскай вобласці. Ліса — Навукова-вытворчае прадпрыемства «Дах».

Дамо ім слова.

З рашэння Гаспадарчага суда Мінскай вобласці ад 5.04.93 г. : «Ісцец просіць скасаваць дагавор арэнды ад 20.01.92 г. Бакі заключылі дагавор арэнды Дома творчасці «Тэатральны» тэрмінам на пяць гадоў.

Згодна дагавору Арандатар прыняў на сябе абавязкі забяспечыць функцыянаванне Дома творчасці за кошт уласных сродкаў, уключаючы правядзенне рамонтна-аднаўленчых работ па нармальнай эксплуатацыі Дома творчасці і падтрыманню належнага тэхнічнага стану аб'ектаў, што перададзеныя ў арэнду, і матэрыяльных каштоўнасцяў; праводзіць амартызацыйныя адлічэнні, якія пералічваюцца на кошт юрыдычнай асобы — Дома творчасці «Тэатральны».

Гэтай драматычнай падзеі — суду паміж бакамі, якія год з нечым палюбоўна дамовіліся: адзін — перадаць свой Дом у арэнду, а другі — яго берагчы і дапамагаць акцёрам — папярэднічала ажыўленая перапіска, канфліктныя размовы і — пазней — поўны разрыў адносін. Ды які разрыў! Гаспадароў нават пускаць у іх уласны Дом творчасці не хацелі... І — не хочуць дасюль. А здаецца, гэтак жа любілі акцёраў, гэтак хацелі ім дапамагчы...

Зірнём жа на перапіску між двума юрыдычнымі бакамі, асабліва — на Дагавор арэнды. А ён — надзвычай цікавы. Недзе каля першых пятнаццаці пунктаў — гэта суцэльны клопат аб карысці Арэндадаўцы (Саюза тэатральных дзеячаў). А вось з пункта 16 пачынаюць, праз аксамітавыя лісіныя лапкі, праступаць і кіпцюрыкі:

«Права ўласнасці на аб'екты, узведзеныя Арандатарам на тэрыторыі Дома творчасці ў перыяд дзеяння дагавора, атрымлівае Арэндадаўца, калі іншае не прадугледжана дадатковай згодай, што з'яўляецца неад'емнай часткай сапраўднага дагавора».

З чаго б гэта на тэрыторыі, якую бяруць у арэнду, узводзіць уласныя пабудовы?

Яшчэ п.18: «У выпадку прыняцця рашэння Арэндадаўцы аб продажы Дома творчасці Арандатар атрымлівае пераважнае права на набыццё Дома творчасці».

Вось так — вырашылі праз колькі год прадаць маёмасць, дык толькі «Даху»... А што ж арэнда? У лютым 1992 г. яна вызначана ў памеры 1 (адной!) тысячы рублёў у год...

п.19: «У выпадку ліквідацыі Арандатара Арэндадаўца аднаўляе свае правы на выкарыстанне Дома творчасці ў поўным аб'ёме».

Так і хочацца запляскаць у ладкі і крыкнуць: «Брава!» Вось жа малайцы! Час смутны, усе творчыя Саюзы пад пагрозай... І юрысты пры разборы гэтай справы толькі дзівіліся: хто ж падпісаў дамову — няўжо толькі «Дах»?

Ну, а як жа эксплуатаваў «Дах» утульны, прыгожы Дом творчасці? Якія ўмовы ствараў для акцёраў? Перапіска дае адказ і на гэта.

З акта ад 28 студзеня 1993 года: «... у ноч з 25.01.93 г. на 26.01.93 г. у Дом творчасці прыехалі дзве групоўкі грамадзян з Бараўлян і г.Мінска ў бар, за спіртным. Па невядомых прычынах паміж імі пачалася «разня» і стральба з пісталетаў, ружжаў, аўтаматаў, у выніку чаго было парэзана некалькі чалавек».

З заявы у СТД, падпісанай некалькімі дзесяткамі вядомых дзеячаў мастацтва: «Па тэрыторыі валэндаюцца асобы ўсходняга і напаўкрымінальнага тыпу, ці то п'яныя, ці то ў наркатычным тумане. Сумоўнічаюць у асноўным матам, але часам мычаць. Вельмі любяць плёскацца ў дзіцячым «лягушатніку», пры гэтым галосяць на незразумелай мове.

... Новыя гаспадары Дома творчасці перагналі старых — яны ўвогуле дзейнічаюць не азіраючыся, відавочна вырашыўшы выйграць тэмп: выціснуць з аб'екта, які арандуюць, усё што можна і як хутчэй. А пасля і спрачацца не будзе аб чым, таму што нічога не застанецца».

А што ж ліса... прабачце, «Дах»? А вось што:

З «Адказу на прэтэнзію ад 18.01.93 г.»: «Лічым, што у Арэндадаўцы няма падставы выказвацца ў прэтэнзіі аб тым (стыль захаваны — Рэд.), што ДТ «Тэатральны» выкарыстоўваецца не па прызначэнні. У час яго эксплуатацыі нумары выкарыстоўваліся як месцы для адпачынку па пуцёўках і для пражывання прыезджых. Забяспечвалася нармальнае іх абслугоўванне і эксплуатацыя ДТ».

І подпіс: «Дырэктар НВП «Дах» І.Карасёў».

Яшчэ адзін ліст — члена СТД Галіны Алісейчык.

«З'явіліся дзіўныя людзі з паўднёвых рэспублік, якія абслугоўваліся іначай, чым іншыя. Яны напіваліся, ламіліся ў нумары, страшна было пакідаць дзяцей адных у нумары.

... Калі я запыталася ў заг. вытворчасці кафэ, чым яны ўсе тут займаюцца, ён адказаў, што яны тут адпачываюць, як і мы, толькі за зарплату...»

«Мы проста сілком адабралі нашы 6 машын, якія яны дабілі, і ледзь іх адрамантавалі. На прэзідыуме ішла гаворка, што для членаў СТД будуць бясплатныя пуцёўкі, — гаворыць нам намеснік старшыні СТД В.Тарнаўскайтэ. — Аказваецца, нам засталіся толькі койка-месцы; харч жа аплочвайце самі, даражэнькія майстры мастацтва. Прыгожая наша мэбля — чорная, жахлівая. У такім жа стане і тэрыторыя...»

З адказу І.Карасёва: «У працэсе эксплуатацыі ДТ ажыццяўлялася добраўпарадкаванне тэрыторыі — пракладзены дарожкі з жалезабетонных пліт». ... СТД — «Даху» — вызваліце Дом, а той у адказ — а нам і тут добра... Ішла перапіска...

Калі ты, паважаны чытач, стаміўся ад гэтых пералікаў, і цябе не здзівіць нават паведамленне аб тым, што за ўсё, што адбывалася ў Доме творчасці, Саюз тэатральных дзеячаў увогуле не атрымаў нават арэнднай платы, — што ж, ты маеш права ўсклікнуць: «Суд жа на гэтай падставе (нявыплата арэнднай платы і тое, што «Дах» «не забяспечыў нармальнае функцыянаванне і эксплуатацыю») скасаваў дамову! Справядлівасць перамагла! Хаця і з абдзёртымі дашчэнту бакамі, але ж выйшаў СТД з капка... прабачце, з арэнднай дамовы!»

Калі ўзрадаваная В.Тарнаўскайтэ, прымчалася ў родны дом, то аказалася, што радавацца рана: суд дамову расторгнуў, але не выказаўся, што ў выніку гэтага трэба гасцей... выселіць. І яны ўсё сядзяць у Доме творчасці разам з «кантынгентам». Стаіўшы дыханне, бедныя акцёры чакаюць, чым жа скончыцца гераічная барацьба новага маладога кіраўніцтва, якое гэтае дамовы не складала, з магутнай камерцыйнай структурай.

Яшчэ адзін суд будзе на гэтым тыдні...

Гэтую гісторыю могуць (у іншых варыянтах) сказаць пра сябе і некаторыя іншыя творчыя саюзы, якія паверылі, што наш люд зможа адразу і ўвесь стаць, па выразу У.Леніна, «цывілізаваным кааператарам»...

Мараль? Яна простая: пускайце, даверлівыя творчыя зайчыкі, у свае ўтульныя хаткі Арэндатараў... Шукайце сабе «Дах»!..

**Тацццяна ГЛУШКО.**

# БЕЛАРУСЬ

## ШТРЫХІ СУПРАЦОЎНІЦТВА: X — XVIII СТАГОДДЗІ

**Доўгі час узаемаадносіны паміж Беларуссю і Нямеччынай маляваліся адно толькі чорнымі фарбамі, акцэнты рабіліся выключна на войнах і шматлікіх сутычках, якіх, вядома, за шматвяковую гісторыю хапала. Гэта і барацьба старажытнага Полацкага княства з крыжакамі, інтарэсы якіх у XII — XIII стст. сутыкнуліся на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, і канфлікты сярэднявечнага Беларускага гаспадарства, гэтак званага Вялікага княства Літоўскага з Лівонскім ды Прускім Ордэнамі. Гэта першая і другая сусветныя войны ў нашым дваццатым...**

**Маладасведчаны ў гісторыі чалавек, атрымліваючы ўвесь час аднабаковую інфармацыю, урэшце пачынаў лічыць, што немцы — ледзьве не адвечныя ворагі беларусаў. Але, як паказваюць гістарычныя факты, гэта зусім не так. Між нашымі народамі існавалі даўнія і трывалыя сувязі, якія прыносілі вялікі плён для абодвух бакоў.**

Першыя гістарычныя звесткі пра кантакты крывічоў з немцамі сягаюць у X ст. Пра гэта паведамляе славуты германскі храніст Дзітрых, апавядаючы, як святы Бруна прапагандаваў хрысціянства «ў Прусіі на мяжы з Руссю».

Ужо ў XII — XIV стст. палітычныя, гандлёвыя і культурныя сувязі Полаччыны з нямецкімі землямі дасягнулі надзвычай высокага ўзроўню. Шматлікія пацверджанні знаходзім у гістарычных крыніцах тых часоў: Угодчай грамаце Полацка з немцамі 1200 г., Дамове Полацка з Рыгаю 1210 г., Угодчай грамаце крывічоў з немцамі 1214 г., Грамаце полацкага князя Ізяслава да крыжакоў (каля 1265 г.), Угодчай грамаце полацкага князя Ізяслава з лівонскім магістрам і Рыгай (каля 1265 г.), Пасланні полацкага епіскапа Якава да рыжскага епіскапскага намесніка (каля 1309 г.), Угодчай грамаце полацкага князя Глеба і епіскапа Грыгорыя з лівонскім магістрам і Рыгай (каля 1338 г.) і шэрагу іншых.

Шчыльныя сувязі з немцамі ў старажытныя часы меў Смаленск. Да нашага часу захавалася нешта сем спісаў гэтак званай «Смаленскай гандлёвай праўды» 1229 г., якая рэгулявала найважнейшыя моманты ўзаемадачыненняў нашых продкаў з заходнімі суседзямі. «Смаленская гандлёвая праўда» ўключала ажно 35 артыкулаў — сведчанне здзіўляльнага паразумення бакоў. Паводле свайго зместу, гэта своеасаблівы мемарандум міжнародных стасункаў, роўнага якому на той час, здаецца, у Еўропе не было. «Праўда» найперш гарантавала поўную свабоду гандлю паміж нашымі продкамі і немцамі. У 18-м артыкуле, прыкладам, зазначалася: «Калі нейкі нямецкі купец пажадае паехаць са сваім таварам у іншы горад, дык ні князь, ні смаляне не будуць забараняць яму гэтага. Калі ж русін пажадае паехаць з Гоцкага берага ў Нямецкую зямлю, у Любэк, дык і яму ніхто не павінны забараняць гэтага». Іншыя артыкулы забяспечвалі льготы для замежных гандляроў, абаранялі іх правы, гарантавалі асабістую бяспеку. Вядома, у «Праўдзе» былі і пэўныя абмежаванні, забароны, прадугледжваліся адпаведныя санкцыі да парушальнікаў. Так, вялікі грашовы штраф ускладаўся на панадлівых заморскіх гандляроў. «Аще который немчич учинить насилье над вольною женою в Смоленске, — зазначалася ў «Праўдзе», — 10 гривен серебра за сорам; таже правда буди русину в Риге и на Готьском березе».

З нямецкімі землямі сталыя сувязі мелі таксама віцебскія купцы, пра што сведчыць тэкст Паслання рыжскіх купцоў да віцебскага князя Міхайлы Канстанцінавіча (каля 1300 г.), у якім іншаземцы скардзяцца князю на «сем крыўдаў», нібыта ўчыненых ім у яго ўладаннях нейкімі ўрадоўцамі.

Найважнейшай гандлёвай артэрыяй паміж Полацкам, Смаленскам, Віцебскам і Нямеччынай была, вядома, Дзвіна. Няспынна плылі па ёй караблі, нагружаныя адмысловымі вырабамі таленавітых беларускіх майстроў. Вырабы з дрэва, металу, тканін карысталіся надзвычай шырокім попытам на заходнееўрапейскім рынку побач з пушнінай, мёдам, воскам ды іншай прадукцыяй.

У XIII ст. з умацаваннем Новагародскай дзяржавы ажывіўся яшчэ адзін водны гандлёвы шлях Беларусі з Еўропай — па Нёмане.

Як паведамляе Галіцка-Валынскі летапіс, шчыльныя эканамічныя і палітычныя стасункі паміж беларусамі (ліцвінамі) і немцамі існавалі з моманту станаўлення новай Беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, у часе княжання Міндоўга (першая палова XIII ст.), Войшалка (сярэдзіна XIII ст.), Трайдзеня (каля 1270 — 1282 гг.) і Віценя (1293 — 1316 гг.). З тае эпохі дайшла таксама Грамата (ад 28 снежня 1263 г.), падпісаная князем Гердзенем і лівонскім магістрам Конрадам фон Мандэрнам.

Нягледзячы на тое, што акурат ад часоў вялікага князя Гедыміна (1316 — 1341) пачынаецца перыяд амаль бесперапынных войнаў нашых продкаў з крыжакамі, усё ж такі гісторыя захавала некалькі дакументаў, якія сведчаць пра імкненне абодвух народаў да супрацоўніцтва і ўзаемавыгаднай стваральнай чыннасці. Так, у 1323 г. Гедымін накіраваў у нямецкія гарады Любэк, Штральзунд, Грынсвальд, Штэцін, Готлянд і Росток «Угодчую грамату», у якой дазваляў нямецкім купцам свабодна, прычым без выплаты мыта, гандляваць на абшарах Вялікага княства, таксама заклікаў іх да сталага пасялення тут, абяцаючы ў найбліжэйшыя 10 год вызваленне ад усякіх падаткаў. Гедымін, як бачым, выдатна разумеў вялікую карысць для гаспадарства ад прытоку замежнага капіталу. У 1338 г. ён сам са сваімі сынамі Глебам (Нарымонтам) і Альгердам падпісаў падобнае пагадненне з Рыгай, якое стварала найспрыяльнейшыя ўмовы для гандлю паміж Беларускім гаспадарствам і Лівонскім Ордэнам.

Такую ж выгодную для нашай дзяржавы знешнеэканамічную палітыку праводзіў Ягайла, а затым ягоны намеснік у Вялікім княстве князь Скіргайла, які 9 чэрвеня 1387 г. падпісаў Грамату з лівонскім магістрам Робінам фон Эльтцам. У цяжкі для эканомікі гаспадарства момант менавіта яна забяспечыла прыток у Вялікае княства нямецкага капіталу.

Да хаўрусаў з нямецкімі дзяржавамі неаднаразова звяртаўся вялікі князь Альгерд (1345 — 1377 гг.), асабліва пасля таго, як Беларускае гаспадарства абвясціла прэтэнзіі на першынства ў славянскім свеце, на права прамога пераемніка старажытных духоўных і культурна-гістарычных традыцый.

* * *

З часоў Вітаўта (1392 — 1340 гг.) узаемаадносіны паміж Беларускім гаспадарствам з аднаго боку, Лівонскім і Тэўтонскім Ордэнамі, а таксама іншымі нямецкімі землямі, з другога боку, сталіся прыкметным фактарам ва ўсёй тагачаснай еўразійскай палітыцы.

Да нашага часу дайшло больш за 100 розных афіцыйных дакументаў — лістоў, дамоваў, абавязацельстваў, праектаў, патрабаванняў, прапаноў, ультыматумаў, якія паказваюць на шматбаковасць і разнастайнасць сувязяў. Прыгадайма хаця б Грамату Вітаўта рыжскаму гарадскому савету з прапановай накіраваць паслоў для перамоваў аб гандлёвых стасунках Полацка і Рыгі (ад 9 лютага 1399 г.), Грамату Вітаўта рыжскаму бурмістру Т.Ніянбругэ на свабодны гандаль рыжан у Полацку (ад 6 сакавіка 1399 г.), Грамату Вітаўта рыжанам, у якой ім дазвалялася набыць у Полацку зямельны надзел і пабудаваць царкву (ад 23 лютага 1406 г.). Варта падкрэсліць, што Вітаўт, як гаспадар Беларускай дзяржавы, калі ўзнікала патрэба, не саромеўся выступіць абаронцам інтарэсаў канкрэтных купцоў і прыватных асобаў. Красамоўнае сведчанне таму Грамата вялікага князя Вітаўта рыжскаму савету з патрабаваннем вярнуць палачаніну Дарафею яго тавар, аддадзены на захаванне рыжскаму бюргеру, які раптоўна памёр.



Вітаўт, апрача ўмацавання эканамічных сувязяў з немцамі, нярэдка ўзгадняў з імі і свае палітычныя крокі.

Ягоны хаўрус з Ордэнам, падпісаны 19 студзеня 1390 г., стаўся адной з найгалоўнейшых умоваў атрымання вялікакняскага пасаду ў 1392 г. Напрыканцы XIV ст., у перыяд стварэння Вітаўтам антызалатаардынскай кааліцыі хрысціянскіх дзяржаў на востраве Салін у красавіку 1398 г., было падпісана пагадненне, паводле якога Ордэн аказаў вайсковую падтрымку вялікаму князю.

Пасля паразы крыжакоў у 1410 г. пад Грунвальдам Ордэн фактычна на некалькі дзесяцігоддзяў трапіў у залежнасць ад Вялікага княства. Таму цалкам натуральна, што спрэчка Вітаўта з Ордэнам з-за Жамойці развязалася ў 1422 г. на карысць Беларускага гаспадарства, і Жамойць назаўжды ўвайшла ў склад нашай дзяржавы.

Пра сутнасць беларуска-нямецкіх стасункаў у часе княжання Вітаўта вельмі шмат гавораць падзеі каранавання вялікага князя. Як сведчаць гістарычныя факты, ініцыятыва каранавання Вітаўта зыходзіла менавіта ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Жыгімонта, які выступіў з ёю неўзабаве пасля 1410 г. Вітаўт доўга вагаўся і прыняў канчатковае рашэнне толькі на Луцкім з'ездзе 1429 г., а затым 17 жніўня 1430 г. пацвердзіў яго ў лісце да вялікага магістра.

Відаць, у часе княжання Вітаўта, калі кантакты паміж беларусамі і немцамі былі найбольш шчыльнымі, да нас з Нямеччыны былі завезеныя многія рамесніцкія прылады, пра што сведчаць іх назвы (шархебель, клямар, васарвага, гэбель, мутра і інш.).

На ўзор нямецкага горада Магдэбурга на Беларусі ў канцы XIV ст. з'явіліся свабодныя гарады з самакіраваннем, выбарным гарадскім судом і органамі ўлады. Першымі магдэбургскае права атрымалі гарады Берасце (1390 г.) і Горадня (1391 г.), пазней Слуцк, Высокае, Полацк, Менск, Браслаў, Ваўкавыск і іншыя.

* * *

У перыяд княжання Казіміра Ягайлавіча (1440 — 1492 гг.), Аляксандра (1492 — 1506 гг.), Жыгімонта Старога (1506 — 1548 гг.) Лівонскі і Прускі Ордэны шматкроць дапамагалі беларускаму ўраду ў змаганні з польскімі магнатамі, маскоўскімі захопнікамі і паўднёвымі ворагамі — крымскімі татарамі і туркамі.

У эпоху Адраджэння вельмі пашырыліся культурныя сувязі паміж Беларуссю і Нямеччынай. Таму асабліва спрыяла і вынаходніцтва друкарскага варштата славутым немцам Іаганам Гутэнбергам. Ужо ў канцы XV стагоддзя беларусы ўбачылі першыя друкаваныя кнігі, прывезеныя з Нямеччыны. Неўзабаве наш зямляк, палачанін Францішак Скарына прадоўжыў справу Гутэнберга на славянскіх землях і ў 1517 г. у чэшскай Празе выдаў 23 біблейныя кнігі, а затым яшчэ дзве ў Вільні. Існуе гіпотэза, што Скарына ў 1525 г. наведваў Германію, дзе ў Вітэнбергу сустракаўся з лідэрам нямецкай Рэфармацыі — Марцінам Лютэрам і Піліпам Меланхтонам і зрабіў на іх незабыўнае ўражанне.

Кнігі Лютэра ў сваю чаргу шырока распаўсюджваліся ў Вялікім княстве; яны




траплялі ў прыватныя бібліятэкі беларускіх магнатаў, іх набывалі навучальныя ўстановы Вільні, Нясвіжа, Полацка, Берасця ды іншых гарадоў і мястэчак.

Пад уплывам нямецкай Рэфармацыі пісаў свае творы найбуйнейшы беларускі вучоны, філосаф і багаслоў Сымон Будны (каля 1530 — 1593 гг.). У 1562 г. у Нясвіжы ён выдаў свой славуты «Катэхізіс», у якім бліскуча развіў ідэі Лютэра і Кальвіна. Будны стала перапісваўся з дзеячамі нямецкай Рэфармацыі, дасылаў ім свае творы, атрымліваў ад іх новыя выданні. Асабліва цёплыя ўзаемаадносіны Будны меў з Генрыхам Булінгерам, адзін з твораў якога пад назвай «Аб праўдзівым прыняцці цела і крыві Ісуса Хрыста» быў перавыдадзены ў 1569 г. у Берасці. Прысвячаўся ён вядомаму дзяржаўнаму дзеячу Беларусі, тагачаснаму падканцлеру Вялікага княства, буйному мецэнату Астафею Валовічу, які ахвяраваў уласныя сродкі на гэтае выданне.

Яшчэ адзін прыкметны аспект культурных стасункаў паміж Беларуссю і Нямеччынай у даўнія часы — навучанне ў нямецкіх універсітэтах нашых студэнтаў, прадстаўнікоў вядомых шляхецкіх і княжых сем'яў: Радзівілаў, Хадкевічаў, Сапегаў, Саламярэцкіх, Заслаўскіх, Валовічаў, Вішнявецкіх, Войнаў, Зяновічаў. У Ліпску (так у старажытныя часы на Беларусі называўся Лейпцыг) на юрыдычным аддзяленні ўніверсітэта каля 1570 — 1572 гг. навучаўся наш вядомы праўнік канцлер Леў Сапега — стваральнік Статута 1588 г., роўнага якому паводле дасканаласці і лагічнай абгрунтаванасці артыкулаў не мела ніводная з еўрапейскіх краінаў. На жыццёвым прыкладзе Льва Сапегі яскрава відаць, як шмат давалі беларускім юнакам нямецкія ўніверсітэты.

У XVII — XVIII стст. многія нямецкія дойліды працавалі на Беларусі. У 1643 г. пад кіраўніцтвам архітэктара П.Нонхарта быў пабудаваны палац-крэпасць у Гайцюнішках. О.Крыгер у сярэдзіне XVII ст. рэстаўраваў Нясвіжскі езуіцкі касцёл. Архітэктар І.К.Глаўбіц у першай палове XVIII ст. спрычыніўся да перабудовы Полацкага Сафійскага сабора ва уніяцкую базыліку.

Паводле назіранняў навукоўцаў, мастацкае аздабленне славутай Берасцейскай Бібліі 1563 г., у прыватнасці тытульны аркуш, ініцыялы ды іншае, выкананыя пад відавочным нямецкім уплывам школы А.Альтдорфера.

Іван САВЕРЧАНКА.

*На здымках:*

1. Крэва. Першы замак-кастэль на беларускіх землях. У будаўніцтве бралі ўдзел нямецкія муляры (XIII ст.). З гравюры Напалеона Орды, XIX ст.

2. Фрагмент «рэйнскай керамікі» XVII ст. Раскопкі Алега Трусава ў Лідскім замку, 1977 г. Друкуецца ўпершыню.

# І НЯМЕЧЧЫНА

## АД ВАЙНЫ ДА ЗГОДЫ

Супярэчнасць і драматызм беларуска-нямецкіх адносін асабліва яскрава праявіліся ў XX ст., калі пасля некалькіх стагоддзяў мірнага і спакойнага развіцця Беларусь і Германія апынуліся на супрацьлеглых франтах першай і другой сусветных войнаў. Як заходні фарпост Расійскай імперыі, а потым Савецкага Саюза Беларусь першай прыняла на сябе ўдары кайзераўскай Германіі ў першай сусветнай вайне і нацысцкага рэйха ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг. Напярэдадні і ў часе сусветных войнаў Беларусь займала важнае месца ў геапалітычных разліках Расіі, СССР, Германіі, як, зрэшты, і іншых еўрапейскіх сярэдніх і буйных дзяржаў. Але сама яна не магла належным чынам адстойваць сваю бяспеку і нацыянальныя інтарэсы, бо не мела сапраўднай дзяржаўнасці і ўласнага войска.

Беларускі народ адчуў на сабе жахі кайзераўскай акупацыі 1915 — 1918 гг. Але разам з тым нямецкія акупацыйныя ўлады, зыходзячы са сваіх меркаванняў, стварылі пэўныя магчымасці для развіцця беларускай справы, адраджэння беларускай мовы, правядзення нацыянальна-культурнай дзейнасці беларускімі арганізацыямі.

Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. адбылося на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі. Рада БНР у зваротах да германскага ўрада адзначала «маральную адказнасць Германіі за далейшы лёс Беларусі» і з улікам бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расіі падкрэслівала, што прызнанне Берлінам незалежнасці Беларусі неабходна як для інтарэсаў Беларусі, так і для інтарэсаў Германіі. Рада прасіла германскі ўрад падтрымаць беларускую дзяржаўнасць і аказаць БНР дапамогу.

Германія, спасылаючыся на ўмовы Брэсцкага мірнага дагавору з РСФСР, згодна з якімі яна абавязвалася не падтрымліваць новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі былой Расіі, адмовілася прызнаць БНР. Але нямецкія акупацыйныя ўлады лаяльна аднесліся да факта абвяшчэння незалежнасці Беларусі, не перашкаджалі ўраду БНР праводзіць актыўную беларусізацыю. Паражэнне германскага блока ў вайне і Лістападаўская рэвалюцыя 1918 г. у Германіі зліквідавалі другі рэйх і адначасова надзеі БНР на падтрымку.

Больш спрыяльна складваліся адносіны паміж урадамі Беларускай ССР і Веймарскай Рэспублікі. Згодна з Рапальскім мірным дагаворам паміж РСФСР і Германіяй ад 16 красавіка 1922 г., яго палажэнні распаўсюджваліся і на БССР. Гэта азначала, што паміж БССР і Германіяй устанаўліваліся дыпламатычныя адносіны і Берлін прызнаваў БССР дэ-юрэ як суб'екта міжнароднага права. Германія была другой пасля Польшчы і апошняй дзяржавай, якая прызнавала БССР юрыдычна. Прадстаўнік БССР у рангу пасланніка ўручыў у 1923 г. даверчыя лісты прэзідэнту Веймарскай рэспублікі Ф.Эберту.

У 20-я гады паміж БССР і Германіяй наладзіліся актыўныя гандлёвыя, культурныя, навуковыя сувязі. Германія з'яўлялася буйнейшым імпарцёрам беларускіх тавараў і адным з буйных экспарцёраў тавараў на Беларусь. Прадстаўнік дзяржаўнай экспартна-імпартнай кампаніі БССР (Дзяржгандальбел) дзейнічаў у складзе савецкага гандлёвага прадстаўніцтва ў Берліне. Германію наведвалі дзеячы культуры і мастацтва, вучоныя Беларусі. Супрацоўнікі Белдзяржуніверсітэта падтрымлівалі сувязі з сусветна вядомым фізікам А.Эйнштэйнам. Дзяржаўная бібліятэка БССР вяла шырокі кнігаабмен з нямецкімі бібліятэкамі. У 1919 г. у Берліне выйшла кніга «Беларусы», у якой былі змешчаны творы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, а таксама вялікая падборка перакладаў на нямецкую мову беларускіх народных песень, казак, загадак, прыказак. У 1920 г. у Берліне быў выдадзены першы на нямецкай мове зборнік беларускіх казак і ананімных твораў, у тым ліку і знакамітая паэма «Тарас на Парнасе».

На нямецкай зямлі знайшлі прытулак беларускія эмігранты. Берлін у 20-я гады быў адным з цэнтраў беларускай палітычнай эміграцыі. Германія стала амаль што адзінай еўрапейскай дзяржавай, якая выступала супраць захопу Беларусі Польшчай, падтрымлівала пазіцыю ўрада БНР адносна непрызнання Рыжскага мірнага дагавору. У кастрычніку 1925 г. у Берліне адбылася другая Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя, прыняўшая трагічнае рашэнне спыніць існаванне БНР і прызнаць Мінск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі.

У часе другой сусветнай вайны Беларусь сягнула з агню бальшавіцкага тэрору ў полымя фашысцкага «новага парадку». Менавіта сталінскі таталітарны рэжым прымусіў беларускіх патрыётаў арыентавацца на Германію як на рэальную сілу, здольную паспрыяць аднаўленню Беларускае Народнае Рэспублікі. Яны цудоўна разумелі, што сабой уяўляе Гітлер як асоба і германскі імперыялізм як з'ява, але ідэі незалежнасці, ідэі беларускасці на беларускай зямлі ў верных сыноў і дачок Беларусі былі трывушчыя і змушалі да пэўных дзеяў па іх ажыццяўленні. Нацысцкая палітыка на Беларусі не была толькі палітыкай генацыду і выпаленай зямлі. Напрыклад, дзейнасць СС і гестапа па знішчэнню грамадзянскага насельніцтва і спальванню вёсак выклікала пратэст з боку генеральнага камісара Беларутэніі В.Кубэ, які імкнуўся да палітычнага вырашэння праблем. Нельга ігнараваць і спробы нямецка-фашысцкіх акупантаў стварыць сацыяльна-палітычную падтрымку з боку калабарантаў і імкненне пэўных колаў беларускага нацыянальнага руху да супрацоўніцтва з акупацыйным рэжымам з мэтай адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Такая спроба была зроблена ў форме ўтварэння Беларускай Цэнтральнай Рады. Але і яна была асуджана на правал.

Раскол Германіі ў выніку халоднай вайны і ўтварэнне дзвюх нямецкіх дзяржаў — ФРГ і ГДР, якія ўвайшлі ў склад ваенна-палітычных блокаў НАТО і Варшаўскага дагавору, стварылі якасна новую сітуацыю на нямецкай зямлі і еўрапейскім кантыненце. У гэтых умовах дыпламатыя і грамадскасць Беларусі засяродзілі сваю міжнародную дзейнасць на барацьбе супраць адраджэння мілітарысцка-рэваншысцкіх сіл Заходняй Германіі, якія адмаўляліся прызнаваць вынікі другой сусветнай вайны. Адначасова яны разам з іншымі сацыялістычнымі краінамі і сусветнай грамадскасцю выступалі за міжнароднае прызнанне ГДР і нармалізацыю адносін паміж дзвюма нямецкімі дзяржавамі. У тым, што ў 1973 г. былі прыняты ў ААН ГДР і ФРГ, ёсць і заслуга нашай рэспублікі.

На працягу 50 — 80-х гадоў паміж дзяржавамі, партыйнымі і грамадскімі структурамі БССР і ГДР існавалі цесныя, дружалюбныя сувязі, якія скла́ліся ў рамках супрацоўніцтва паміж СССР і ГДР. Адбываліся візіты партыйна-дзяржаўных кіраўнікоў, абмен дэлегацыямі на мясцовым узроўні, кантакты паміж працоўнымі калектывамі. У 1958 г. было створана Беларускае аддзяленне Савецкага таварыства дружбы з ГДР, якое к сярэдзіне 80-х гадоў налічвала больш за 60 пярвічных арганізацый. У 1968 — 1969 гг. паміж Мінскай вобласцю і акругай Патсдам, Віцебскай вобласцю і акругай Франкфурт-на-Одэры ўсталяваліся пастаянныя сяброўскія сувязі. Да сярэдзіны 80-х гадоў прамое супрацоўніцтва існавала паміж больш чым ста прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі БССР і ГДР. У 1972 г. у Мінску было адкрыта Генеральнае консульства ГДР.



У рамках інтэграцыі краін Савета Эканамічнай Узаемадапамогі развіваліся эканамічныя сувязі паміж дзвюма рэспублікамі. ГДР з'яўлялася адным з самых буйных знешнеэканамічных партнёраў Беларусі, паколькі на яе долю прыходзілася да 25 % беларускага экспарту. Для СССР і ГДР вялікае значэнне мела праца беларускага транспарту, бо каля 90 % знешнегандлёвага абароту абедзвюх краін рэалізоўвалася праз тэрыторыю Беларусі. Важнай часткай беларуска-германскіх сувязяў было культурнае і навуковае супрацоўніцтва. У 1946 — 1984 гг. на беларускай мове было выдадзена больш за 60 кніг нямецкіх пісьменнікаў агульным накладам каля 400 тысяч экземпляраў.

З 80-х гадоў паступова пачалі наладжвацца сувязі Беларусі з ФРГ. У 1979 г. былі завязаны прамыя кантакты паміж Белсаўпрафам і аддзяленнем Аб'яднання свабодных нямецкіх прафсаюзаў зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Праз некалькі год наладзіліся адносіны рэспублікі з зямлёй Паўночны Рэйн-Вестфалія — важнейшай па колькасці насельніцтва і па эканамічнаму патэнцыялу зямлёй ФРГ.

У гісторыі Беларусі і Германіі 1990 год займае асаблівае месца. Менавіта ў гэты год была абвешчана Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі і адбылося аб'яднанне Германіі. У гісторыі беларуска-нямецкіх адносін пачалася новая старонка — развіццё ўзаемных адносін паміж дзвюма суверэннымі і незалежнымі дзяржавамі. Адносіны з Германіяй з'яўляюцца зараз адным з прыярытэтных напрамкаў знешняй палітыкі Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Шушкевіч зрабіў свой першы замежны візіт менавіта ў Германію, наведаўшы ў верасні 1991 г. зямлю Паўночны Рэйн-Вестфалія.

У сакавіку 1992 г. падчас візіту ў Мінск намесніка федэральнага канцлера, міністра замежных спраў ФРГ Г.-Д.Геншэра было падпісана пагадненне аб аднаўленні дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Германіяй (былі ўстаноўлены, як адзначалася, у 1922 г.). Бакі дамовіліся абмяняцца дыпламатычнымі місіямі на ўзроўні паслоў, і праз некалькі месяцаў пасольства ФРГ адчынілася ў Мінску, а ў Боне стала працаваць пасольства Беларусі. Г.-Д.Геншэр быў прыняты С.Шушкевічам і В.Кебічам, якія выказалі зацікаўленасць у германскіх інвестыцыях у беларускую эканоміку. Германскі палітык падкрэсліў мэтазгоднасць набліжэння Беларусі да Еўрапейскай супольнасці. Беларускі бок падзякаваў за значную дапамогу, якую аказала рэспубліцы Германія ў сувязі з чарнобыльскай бядой. На долю ФРГ прыпадае 80 % сродкаў, што паступаюць ад усіх еўрапейскіх дзяржаў. Была падкрэслена неабходнасць аднавіць палітычныя, эканамічныя, гандлёвыя і культурныя сувязі, існаваўшыя раней паміж беларускім і нямецкім народамі, і садзейнічаць іх далейшаму развіццю. На парадак дня міждзяржаўных адносін Беларусь — Германія пастаўлена задача прадаўжэння трывалых традыцый узаемных кантактаў і напаўнення іх новым зместам у адпаведнасці з нацыянальнымі інтарэсамі.

Уладзімір СНАПКОЎСКІ,
доктар гістарычных навук.

*На здымку:*
«Культура мусіць ісці на крок шпарчэй, чым палітыка», — сцвярджае Нобі Моркес, каардынатар культурных сувязяў зямлі Паўночны Рэйн - Вестфалія з Рэспублікай Беларусь.

Мінск, 1992 г.

# ЗНАК ЧАЛАВЕКА

19 чэрвеня 1984 года Васіля Быкава ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння ўзнагародзілі Залатой Зоркай Героя Сацыялістычнай Працы, зрабілі, як у тыя часы жартавалі, Гертрудай («праца» ж па-руску — «труд»). Такім чынам, да свайго шасцідзесяцігадовага юбілею ён меў усе адзнакі поўнага літаратурнага генерала: званне Народнага пісьменніка Беларусі, Ленінскую прэмію, Залатую Зорку.

Але гэта былі адзнакі, так бы мовіць, толькі на пагонах. І партыйныя бонзы, памяняўшы тактыку цкавання Быкава, якое вялося на працягу некалькіх год, на «міласць», на «панскую ласку», дарэмна спадзяваліся, што «генеральскі мундзір» зробіць Васіля іхнім, што цяпер ім удасца яго прыручыць...

Добра памятаю, што сказаў Васіль, калі пасля банкета ў гонар юбілею блізкія сябры праводзілі яго дадому: «Думаюць, што канчаткова пасадзілі мяне на залаты ланцуг. Не ўдалося задушыць голымі рукамі, спадзяюцца задушыць гэтым ланцугом. Проста дзіўна, наколькі яны мяне не ведаюць!»

Тут ён памыліўся! Яны добра ведалі, з кім маюць справу, ведалі, што значыць ён для літаратуры, для народа, адчувалі яго велізарную маральную перавагу над сабой, разумелі выбуховую моц яго творчасці. Не разумелі толькі, што на ланцуг яго не пасадзіш, што рукі яго немагчыма закуць у залатыя кандалы, немагчыма «растліць» душу ні славай, ні грашыма, ні каварным далучэннем да істэблішменту. «Генерал» заставаўся салдатам — мужным, суровым, сумленным салдатам Вялікай Айчыннай вайны, заставаўся Быкавым — пісьменнікам, у чыіх творах ніколі не было ні слова фальшу, ні слова маны. Вось што здзіўляе, калі ўспомніць той страшэнны цэнзурны прыгнёт, тую партыйную «апеку» над літаратурай, якія прыпалі на маладыя гады яго творчасці, таксама, як і на яе росквіт! І паводзіны яго — грамадзянскія, чалавечыя — ніколі не разыходзіліся з творчасцю, з тым, што ён сцвярджаў, на чым стаяў у сваіх творах. Таму і стараліся, асабліва ў шасцідзесятыя-сямідзесятыя гады, яго запэцкаць, таму, як звычайныя шулеры, ашуканцы, ставілі яго подпіс пад рознымі ганебнымі дакументамі: то пад пісьмом з паклёпам на Аляксандра Салжаніцына, то пад паклёпніцкім, брудным асуджэннем Андрэя Сахарава. Самі сачынялі, самі падраблялі подпісы... А цяпер адшукваюць гэтыя «дакументы» ў падшыўках старых газет і перадрукоўваюць у сваіх чырвона-карычневых выданнях: паглядзіце, маўляў, хто такі Быкаў, паглядзіце на яго «прыстасаванне»... Ён жа разам з усімі дудзеў у адну дуду! Звычайны перабежчык!..

Але як тады, так і цяпер у народзе жылі і жывуць не фальшыўкі, а «Трэцяя ракета» і «Праклятая вышыня», «Жураўліны крык» і «Мёртвым не баліць», «Альпійская балада» і «Сотнікаў» — усё тое, што зрабіла імя пісьменніка сусветна вядомым. Жыло і дагэтуль жыве слова Быкава, сказанае ім на VI з'ездзе беларускіх пісьменнікаў — спакойны і мужны выклік усёй сістэме «імперыі зла». І, відаць, таму і шалеюць чырвона-карычневыя, што слова гэтае больш не дакумент «самвыдата», а даступнае сёння ўсім. Яно паказвае, які ён «перабежчык»!



Параўнаўча нядаўна, калі перакладаў на рускую мову (для часопіса «Новый мир») аповесць Васіля «Аблава», зразумеў раптам з усёй яснасцю, хоць адчуваў гэта і раней, у чым яго сіла, чаму яго кнігі адразу, пачынаючы з самай першай, леглі на сэрцы чытачоў, чаму яго так ненавідзелі і ненавідзяць учарашнія і сённяшнія «гаспадары жыцця», — таму, што ў яго кнігах няма нянавісці. Ні класавай, ні нацыянальнай. Ніякай. А ён жа — пісьменнік вайны, вайною народжаны — Вялікай Айчыннай; і хоць «Аблава» распавядае пра «мірныя» часы, пра калектывізацыю, — яна таксама пра вайну, зацятую, жорсткую, знішчальную вайну нелюдзей супраць людзей, пра тое, як і чым супрацьстаялі ў гэтай вайне людзі нелюдзям. І вось — няма ў «Аблаве» нянавісці! Нідзе няма. Ёй супрацьпастаўлены народны погляд на тых, хто жыве нянавісцю, — горкі, сумны і, як гэта ні дзіўна, спачувальны позірк на іх, бо і нелюдзі былі некалі дзіцяткамі чалавечымі і, хто ведае, у іншых умовах маглі б зноў стаць людзьмі. І тое, што на вайне прыходзіцца іх знішчаць, — гэта не нянавісць, а самаабарона нармальнага чалавека ад узброенага вар'ята, у якога няма маралі, згодная з запаведзямі Кнігі Быцця.

Думаецца, менавіта таму, што Васіль Быкаў узняўся над нянавісцю, таму, што няма ў яго творах прагі помсты, а ёсць хоць і суровая, але ўсяго толькі просьба задумацца над жыццём, над яго сэнсам, над самім сабой, — менавіта таму яго кнігі леглі на сэрца і немцам, а не адным нам.

«Знак бяды» — так назваў ён адну з лепшых сваіх аповесцяў. А напісаў ён, як і ўсе іншыя творы, пад знакам чалавека. Можна сказаць, што і сам ён — знак чалавека, пад якім нарадзілася і яшчэ народзіцца не адно пакаленне беларусаў, не адно пакаленне чытачоў на ўсім свеце. Пад добрым знакам чалавека, якога ніколі і нікому не ўдасца пасадзіць на ланцуг. А значыць, і тых, хто нарадзіўся пад гэтым знакам як асоба, як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, як сын людства.

**Валянцін ТАРАС.**

---

З ЖЫЦЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

# Міхась Наўмовіч: «Беларусь — наша светлая мара...»

Гэты чалавек адразу ж вылучаецца з вірлівага стракатага і імклівага парыжскага натоўпу нейкай сваёй цiхай рахманасцю, абачлівасцю і да болю знаёмай задуменнасцю. Падчас нашай першай сустрэчы я пазнаў яго здалёк і адразу. Амаль пяцьдзесят год жыцця ў Францыі так і не зрабілі яго французам. Відаць, тая рахманасць і задуменнасць глыбока замацаваная ў генах беларусаў, і вытравіць іх нават на чужыне амаль немагчыма.

... Мы сядзім з Міхасём Наўмовічам, вядомым мастаком беларускага замежжа, старэйшынёй арганізацыі нашых суайчыннікаў у Францыі «Хаўрус» у штаб-кватэры суполкі на вуліцы Гравіё, што ў самым сэрцы Парыжа. Зусім побач, рукой падаць — вядомыя ўсяму свету цэнтр Пампіду, ганарысты інтэлігент Луўр, святы Нотр Дам. Вось ужо некалькі гадзін мы п'ем моцную гарбату, здобленую беларускім бальзамам на прапалісе, і гаворым, гаворым, гаворым. Лаўлю сябе на думцы, што зараз тут, у Парыжы, я адзін, а ён, Міхась, безумоўна там, на Бацькаўшчыне. Адкрыты твар, вострыя, жывыя і маладыя, нягледзячы на семдзесят год, позірк разумных вачэй. Працавітыя, каржакаватыя рукі, якім не могуць не скарыцца камень, метал і гліна. І мова! Тая ненаркомаўская, нерусіфікаваная без калек, чыстая беларуская гаворка 30-х гадоў, павольна-сардэчная, мяккая — «сынег», «матулечка», «маляваньне», «радасьць»...

Нарадзіўся Міхась Наўмовіч у вёсцы Кашалёва на Навагрудчыне. Там і рос. Як і ўсе яго аднагодкі, хадзіў у школу. Ужо тады парою настаўнікі заўважылі яго здольнасці да малявання. Адначасова Міхась стаў займацца ў студыі мясцовага мастака Рамашкевіча, свайго першага прафесара жывапісу. Гэты надзвычайна добры мастак, чалавек і педагог адкрыў юнаку цудоўны свет мастацтва. Здавалася, у жыцці ўсё ішло добра, многае атрымоўвалася, наперадзе чакалі цікавыя творчыя планы. Але на доўгія гады ўсё перакрэсліла вайна...

Нямецкая акупацыя, потым вядомая многім беларускім хлопцам яго пакалення армія генерала Андэрса, французскае Супраціўленне і, нарэшце, Парыж. Гэты кавалак часу быў для Міхася бадай што адным з самых цяжкіх. Давялося багата глынуць гора, бачыць смерць, голад і холад. Ды што там, дзякаваць Богу, жывым застаўся!

Жыццё ў чужой краіне з адзіным багаццем — салдацкай катомкай за плячыма — таксама пачыналася нясоладка. Напачатку Наўмовіч жыў у польскага скульптара Венглеўскага. Згаладалыя па пэндзлю і гліне рукі, здаецца, забываліся пра стому. Маляваў і ляпіў тое, што любіў і пра што не мог забыцца, — краявіды роднай Навагрудчыны, сяброў дзяцінства, вайсковых паплечнікаў. Неўзабаве прыйшоў і першы поспех: у конкурсе на эскіз лепшага французскага значка работа Міхася была названа ў ліку пераможцаў, аб чым напісалі амаль усе парыжскія газеты. У выніку Наўмовіч быў залічаны ў мастацкую акадэмію, на секцыю скульптуры, дзе і правучыўся больш за пяць год, здабыўшы сабе, як мастаку, добрую вядомасць. За кароткі тэрмін на розных выставах малады мастак з нефранцузскім прозвішчам (а гэта ой як нялёгка!) здабыў 9 узнагарод. З'явіліся і першыя сур'ёзныя заказы. Напрыклад, да гэтай пары ў многіх касцёлах каля Парыжа стаяць скульптуры ягоных святых з такімі блізкімі і роднымі Наўмовічу навагрудскімі тварамі!..

Імя нашага таленавітага суайчынніка назаўсёды ўвайшло ў французскую гісторыю. Тыя з Вас, каму пашчасціла пабываць у сталіцы Францыі, пэўна ж, захапляліся хараством аднаго з цэнтральных яе пляцаў — пляцам Канкорд з мастом Аляксандра ІІ і залатымі львамі на ім. Дык вось, пасля вайны найадказнейшая праца аднаўлялць і рэстаўраваць пасля бамбёжак усю гэтую прыгажосць у ліку другіх была даверана і скульптару Міхасю Наўмовічу. Не адзін месяц каля залатагрывых ільвоў завіхаліся залатыя рукі беларускага майстра, уваскрашаючы неўміручае мастацтва...

З успамінаў Міхася Наўмовіча:

— Ажаніўшыся, у 50-х гадах я пачаў будаваць свой першы дом пад Парыжам. Не скажу, што ў той час жыццё наша ў Францыі было лёгкім і перш за ўсё не столькі фінансава, колькі маральна. Тагачасныя ўлады, прынамсі, прэзідэнт дэ Голь, падтрымлівалі вельмі добрыя адносіны з Масквой. І калі, напрыклад, з візітам у Парыж прыязджаў Хрушчоў, то амаль усіх эмігрантаў — беларусаў, украінцаў, грузінаў, каб пазбегнуць дэманстрацый пратэсту і пацвердзіць сваю лаяльнасць да СССР, проста вывозілі на «кароткі адпачынак» на Корсіку. Сялілі ў добрыя гатэлі, плацілі грашовую кампенсацыю. Але многія вельмі баяліся, што аднойчы іх такім жа чынам замест Корсікі могуць адправіць назад, у «сацыялістычны рай». А гэта ў тыя часы азначала толькі адно — смерць. Таму большая частка беларускай эміграцыі выехала за акіян — у ЗША і Канаду. Але, нягледзячы на сваю нешматлікасць, Саюз беларусаў Францыі дзейнічаў. На грамадскіх пачатках мы выдавалі газеты, часопісы, імкнуліся данесці да замежнай грамадскасці як мага больш інфармацыі пра Бацькаўшчыну.

Ну, але ж гэта асобная гісторыя — і трагічная, і цікавая. Я ўпэўнены, аб ёй з цягам часу яшчэ будуць напісаны цэлыя кнігі...

Міхась Наўмовіч, маючы ўжо сям'ю, стала пусціў карані ў Францыі. Збудаваў прасторны дом пад Парыжам. Каб паглыбіць веды і майстэрства, скончыў яшчэ школу фізіялогіі. Разам з творчай працай займаўся і педагагічнай, што, дарэчы, добра дапамагала фінансава, а гэта, як вядома, не апошняя справа для мастака.

Больш за 20 гадоў выкладаў ён малюнак, марфалогію і анатомію (і не абы дзе!), у вядомай прыватнай галерэі «Акадэміі Жульен», дзякуючы чаму асабіста знаёмы з многімі мэтрамі французскага мастацтва.

Працуе і зараз, не зважаючы на семдзесят год, выкладчыкам нацыянальнай парыжскай школы Сэн-Ларыз па той жа спецыяльнасці. Ужо некалькі разоў хацеў пайсці на пенсію, каб цалкам заняцца любімай мастацкай справай, але ж кіраўніцтва не адпускае, просіць застацца яшчэ хоць на які час. Што ж, французы заўсёды ўмелі цаніць талент і веды...

З успамінаў Міхася Наўмовіча:

— Родная Беларусь, наша дарагая Бацькаўшчына, заўсёды была для нас пуцяводнай зоркаю, болем і светлаю мараю. Мы апынуліся на эміграцыі таму, што Радзіма не была незалежнай. Але ж, паверце, рабілі ўсё, што маглі, каб вярнуць ёй волю, і для нас, у замежжы, дзень абвяшчэння суверэнітэту Беларусі стаў найвялікшай радасцю і святам! Адзінае страшэнна шкада, што не ўсе дажылі да гэтае светлае часіны...

Я хацеў бы зараз расказаць пра свайго сябра, нават брата, Яна Філістовіча. Гэта быў вельмі прыгожы, інтэлігентны, адукаваны хлопец. Быў... У сваім жыцці я больш не сустракаў чалавека такой душэўнай чысціні! У яго, студэнта знакамітай Сарбоны, былі цудоўныя перспектывы — грошы, імідж, становішча ў свеце. Але ён ад усяго адмовіўся і ў 50-х гадах нелегальна паехаў на Беларусь, каб змагацца за яе незалежнасць. На Бацькаўшчыне яго адразу ж высачылі і злавілі, але, наколькі я праінфармаваны, Янка здолеў уцячы. Больш за год хаваўся, нават здолеў зарганізаваць друкарню, але ў рэшце рэшт усё ж такі трапіў у турму. Кажуць, ягоная справа заняла ажно 23 тамы. Расстралялі ж Філістовіча, як я змог даведацца, здаецца, 5 сакавіка 1953 года, у дзень смерці Сталіна.

Мяне страшэнна абурыла, што ў адным з інтэрв'ю з кіраўнікамі беларускага КДБ Яна Філістовіча называюць бандытам — і варожым агентам! Я ж ведаю яго, як сябе, — не быў ён аніякім дыверсантам. Гэта сапраўдны герой нашага народа, сучасны Кастусь Каліноўскі, ён моцна любіў Радзіму і не задумваючыся паклаў сваё жыццё на алтар яе незалежнасці.

Лічыць Філістовіча бандытам — надзвычай непрыстойна!

На Парыж ціха апускаецца змрок. А мы з Міхасём усё гаворым. Пра жыццё, пра планы, якіх у яго процьма. Свой першы «французскі» дом ён аддаў сыну — архітэктару і зараз дабудоўвае непадалёк другі — для сябе. Трэці дом з майстэрнямі стаіць у яго ў Альпах. Там таксама багата працы, і ўсё гэта (адвечная беларуская цягавітасць!) ён робіць фактычна сваімі рукамі!

Навошта ж столькі чалавеку? А каб здзейсніць сваю даўнішнюю мару. Калі прыстанішча ў Альпах будзе даведзена да ладу, Наўмовіч плануе запрашаць сюды для працы і навучання маладых, таленавітых беларускіх жывапісцаў і скульптараў. Няхай вучацца, удасканальваюць Божы дар, дый ён, адна з адметных фігур нашага мастацкага замежжа, мог бы ім вельмі многае перадаць.

А яшчэ Міхась марыць сабраць нарэшце свае творы: і тыя, што засталіся ў Францыі, і тыя, што захоўваюцца ў прыватных калекцыях у Канадзе і ЗША, і арганізаваць выставу на роднай Беларусі, дзе ён не быў амаль пяцьдзесят гадоў.

... Выпіта апошняя шклянка гарбаты — і мы маўчым ужо даволі доўга. Ва ўтульнай кватэры на Гравіё, як і на дварэ, гаспадарыць прыцемкі. Цёпла развітваемся, я праводжу Міхася. Азіраюся. У стракатым парыжскім натоўпе ён вылучаецца сваёй задуменнасцю і да болю знаёмай беларускай рахманасцю.

Дай Бог яму сілы дабудаваць дамы, парабіць усе справы і ўсё ж такі паспець вярнуцца на Бацькаўшчыну, сумленнаму яе сыну, чалавеку і мастаку!

Хоць на кароткі час...

**Вацлаў БАГДАНОВІЧ.**

Мінск — Парыж — Мінск.

# «ВЫ СЁННЯ ЦУДОЎНА ІГРАЛІ!»



Вядучыя фэсту — артысты Мазырскага драматычнага тэатра Валянціна Шаплякова і Юры Гарабец.

Гасцінна сустрэлі ўдзельнікаў фэсту нашчадкі радзімічаў, а яшчэ раней мазураў, якія шмат стагоддзяў таму пасяліліся на маляўнічых узгорках правага берага ракі і далі імя гэтаму старажытнаму месцу. Ідэя правесці ўсебеларускі фестываль самадзейных тэатраў у Мазыры і прысвяціць яго знакамітаму драматургу Андрэю Макаёнку належала гаспадарам — Мазырскаму гарвыканкаму і Упраўленню культуры Гомельскага аблвыканкама. Міністэрства культуры падтрымала ініцыятыву.

Так нарадзілася на Беларусі новае тэатральнае свята.



Рэжысёр Краснапольскага народнага тэатра, заслужаны работнік культуры Беларусі В.Ермаловіч.

На працягу трох дзён гарадскі Дом культуры жыў напружаным творчым жыццём, хваляваннямі, спадзяваннямі. Кожную раніцу фэст пачынаўся са знаёмай мелодыі — «Радзіма мая дарагая...» Асаблівую танальнасць і настрой уносілі ў залу абаяльныя вядучыя — маладыя артысты Мазырскага драмтэатра Валянціна Шаплякова і Юрый Гарабец.

У Мазыр з'ехаліся лепшыя самадзейныя тэатры з усёй краіны. І перад журы (дарэчы, у яго склад уваходзілі прафесійныя рэжысёры і акцёры) паўстала няпростая задача — вызначыць мацнейшых. «Складанасці былі, — зазначыў старшыня журы, доктар мастацтвазнаўства, загадчык кафедры Мінскага інстытута культуры Гурый Барышаў. — Да самадзейнага мастацтва нельга падыходзіць з прафесійнымі меркамі. Толькі да рэжысёра тут можа быць такое стаўленне, бо ён мае спецыяльную адукацыю. Мы ўлічвалі самыя розныя нюансы. Ацэнка зыходзіла перш за ўсё са спецыфікі народных тэатраў».

Гледзячы на дзеянне, што разгортвалася на сцэне,думала: цудоўна, што ёсць такія людзі, якія праз сябе дораць радасць яднання з мастацтвам іншым, але ж ці здолеюць гэтыя і іншыя самадзейныя калектывы ўтрымацца на хвалях часу і не разбіцца аб скалу эканамічнага крызісу? Улічваючы сённяшнюю сітуацыю, падставаў для песімістычнага настрою задужа. Толькі за апошнія гады зніклі каля 2,5 тысячы калектываў...

— Заўсёды былі і ёсць таленавітыя людзі, — лічыць рэжысёр Абухаўскага народнага тэатра з Гродзеншчыны А.Барысевіч, — якія выказваюць сябе праз песню, танец або тэатр. Гэта вечна. Прыгадаем гісторыю. Раней не было ні дамоў культуры, ні клубаў, ні тэатраў, але быў народ, існавала ягоная творчасць. Людзі самі вырашаюць лёс мастацтва.

Артысты Абухаўскага тэатра атрымалі спецыяльны прыз рэдакцыі часопіса «Тэатральная Беларусь». Яны паказалі спектакль паводле паэмы Сяргея Законнікава «Чорная быль», уразіўшы глыбінёй пранікнення ў тэму і ўвасабленнем філасофскай думкі аўтара. «Але самай галоўнай узнагародаю, — прызнаўся кіраўнік творчага калектыву, — была нечаканая падзяка маленькага гледача. Хлопчык падышоў да нас у час перапынку і сказаў: «Вы сёння цудоўна ігралі!» Гэта ўсіх нас вельмі ўразіла. Спектакль наш складаны. У ім мы хацелі данесці трагедыю нашага народа. Адштурхоўваючыся ад чарнобыльскай праблемы, мы выйшлі на праблему мовы, дзяржаўнасці, нашага суверэнітэту. Спектакль перасцерагае: беларусы, вы губляеце сябе! Гэтак не можа далей працягвацца!»

На фэсце было шмат нечаканых і прыемных адкрыццяў. Старая знаёмая «Паўлінка», якую мы добра ведаем са школьных гадоў, колькі разоў бачылі на купалаўскай сцэне, па тэлевізары, у прачытанні рэжысёра і мастацкага кіраўніка Пінскага тэатра-студыі «Дыяген» Івана Базана і акцёраў трупы набыла новае, троху нязвыклае, сучаснае гучанне. Усе тут былі цікавыя і своеасаблівыя: пяшчотная, іранічная, праўдзівая Паўлінка (актрыса А.Гаўрыловіч), яе кансерватыўны і непрымірымы бацька Сцяпан Крыніцкі (артыст А.Белавус), гатовая на кампрамісы ягоная жонка Альжбета (актрыса Г.Луцыба), хітраваты, смяшлівы і безадказны Пранцысь Пустарэвіч (заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, артыст А.Бажэлка). Роля сталай Агаты, якую адметна і выдатна выканала маладая актрыса Таццяна Барышчук, была асобна адзначана журы. Зусім здзівіў усіх пан Адальф Быкоўскі. Ім стаўся малады, кідка, але не без густу апрануты франт, фанабэрысты, смешны ў адных выпадках і непрыстасаваны да жыцця і бездапаможны ў іншых, але пры ўсім пры тым — абаяльны і сімпатычны хлопец. Падобны да нашага сучасніка, са сваімі вартасцямі і хібамі.

Выканаўца ролі Быкоўскага акцёр Юры Круцэнка нарадзіўся ў Адэсе, вучыўся ў Кіеўскім інстытуце тэатральнага мастацтва, некалькі гадоў таму пераехаў да жонкі ў Пінск. Самае цікавае, беларуская мова Юрыя, нягледзячы на тое, што ён, так бы мовіць, іншаземец, не выклікала аніякіх спрэчак, гучала натуральна, па-купалаўску каларытна і прыгожа, як, дарэчы, і ў выкананні іншых пінчукоў.

— У мяне часта пытаюцца: як я здолеў так хутка вывучыць беларускую мову? — гаворыць Юры Круцэнка. — Усё проста: я слухаю радыё, гляджу тэлевізар, многа чытаю па-беларуску, выпрацоўваю такім чынам вымаўленне, набываю слоўнікавы багаж. Гэта мне дапамагае ў рабоце. Але ж да дасканалага валодання беларускай мовай яшчэ далёка.

— Неяк нязвыкла бачыць у ролі Быкоўскага маладога выканаўцу, — не ўтрымалася я. — Мы прызвычаіліся да таго, што ў класічных пастаноўках пана Адальфа Быкоўскага іграе акцёр, як кажуць, у росквіце гадоў.

— Па п'есе Быкоўскаму 24 гады. Ён — мой равеснік. Што тычыцца трактоўкі ролі, пры ўсёй маёй павазе да выдатных выканаўцаў, імкнуся ствараць уласнае — гэтак, як я адчуваю і разумею. Бо заўсёды памятаю, што «мнящий суть не в сути, а вне сути, никогда не постигнет сути, ибо его удел — ложное намерение». Для мяне было б найвышэйшай пашанай, калі б мне, украінцу, удалося ўнесці нешта новае ў вобраз героя беларускай п'есы.

Увогуле, трэба адзначыць, ігра пінчукоў была не горшай за працу на сцэне акцёраў многіх сталічных тэатраў. «Дыяген» атрымаў дыплом фестывалю. Праўда, не ўвайшоў у лік асноўных пераможцаў.

Дыпломам лаўрэата фэсту і трэцяй прэміяй быў узнагароджаны народны тэатр чытальнікаў «Жывое слова» Мінскага педінстытута. Сталічныя студэнты прывезлі ў Мазыр спектакль паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча «Сівая легенда». Гэты калектыў раней фінансавалі прафсаюзы. Зараз, па выказванні кіраўніка, выкладчыка беларускай літаратуры Акадэміі мастацтваў Рэспублікі Беларусь Юрыя Чарэнкі, «Жывое слова» з-за адсутнасці сродкаў апынулася як бы за бортам карабля. На фэст калектыў трапіў у самы апошні момант, тым больш прыемна было яго ўдзельнікам вяртацца дамоў з перамогай. «Мы рады, што гэты фэстываль — беларускі, што на ім гучала наша мова не толькі са сцэны, але і ў кулуарах», — такое меркаванне мінскіх студэнтаў.

Удзельнікі фэсту адзначылі глыбокую і сур'ёзную работу Краснапольскага народнага тэатра Магілёўскай вобласці. Яго кіраўнік, заслужаны работнік культуры Беларусі В.Ермаловіч і акцёры звярнуліся да твораў Максіма Гарэцкага, ажыццявіўшы сцэнічную кампазіцыю па трох аднаактовых п'есах «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек» і «Атрута». Спектакль краснапольцаў «Стогны душы» быў адзначаны спецыяльным прызам Упраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама.

Другая прэмія і дыплом лаўрэата фестывалю дасталіся калектыву Слуцкага народнага драматычнага тэатра імя У.Галубка. Случакі паставілі камедыю свайго знакамітага земляка «Пісаравы імяніны» (рэжысёр А.Салавей марыць аб стварэнні тэатральнага музея імя У.Галубка). Асобна журы адзначыла работы З.Заяц (Пісарава жонка) і А.Шклярэўскага (Дзяк).

Высокую ўзнагароду — першую прэмію і дыплом лаўрэата атрымаў народны тэатр Рагачоўскага Дома культуры Гомельскай вобласці за пастаноўку п'есы А.Дударава «Парог».

— Нашаму калектыву ўжо 30 гадоў, — адзначыў яго кіраўнік Аляксей Сількевіч. — Многа п'ес, пераважна беларускіх драматургаў, было пастаўлена за гэты час. Мы ішлі да «Парога». Мне даўно падабалася гэтая п'еса, аднак я не рашаўся ставіць спектакль. І вось час надышоў. «Парог» перагукваецца з нашай рэчаіснасцю. Разам з аўтарам мы заклікаем: людзі, не пераступайце парог маральнасці, душэўнасці, чысціні, усяго добрага!

— Ваша стаўленне да фестывалю. Ці нясе ён што карыснае самадзейным тэатрам?




Пан Адальф Быкоўскі (Ю.Круцэнка) і Паўлінка (А.Гаўрыловіч) на вечарынцы — сцэна са спектакля «Паўлінка» Пінскага тэатра-студыі «Дыяген».

— Гэта цудоўна, што, нарэшце, наладжаны такі фэст! Я думаў, што нікому мы ўжо не патрэбныя, і апусціў нават рукі. Вы бачылі б вочы нашых акцёраў! Безумоўна, такое свята неабходнае, яно дае магчымасць знаёміцца з працай калег, узбагачае духоўна.

Што чакае самадзейныя тэатры ў будучым? «Яны саступяць месца, — на думку Гурыя Барышава, — аматарскім, якія самі сябе фінансуюць. Захаваюцца калектывы, якія любяць тэатр. Усведамляючы працэс, Міністэрства культуры робіць захады па падтрымцы гэтага руху. Наладзіла фэст. Лаўрэаты не толькі атрымалі грашовыя прэміі, але і ў дадатак па 100 тысяч рублёў на маючыя адбыцца пастаноўкі. Я лічу, што гэта адзін з найважнейшых момантаў, якія дазволяць захаваць аматарскія калектывы». Акрамя таго, у мэтах падтрымкі лепшых народных тэатраў Міністэрства культуры прыняло рашэнне аб вызначэнні сацыяльна-творчых заказаў на пастаноўку лепшых твораў нацыянальнай драматургіі.

... Адраджэнне ідзе па Беларусі. Прыйшло яно і на Гомельскую зямлю, што падпала пад чарнобыльскі цень. Сведчанне таму — удзел у фэсце трох самадзейных тэатраў вобласці. У Мазыры з насельніцтвам трохі болей за 100 тысяч чалавек адкрыўся прафесійны тэатр, працуе сімфанічны аркестр, створаны калектыў «Явар», які ўразіў сваім адметным майстэрствам удзельнікаў фэсту, плануецца будаўніцтва вялікай музычнай школы.

Так, праблем і перашкод яшчэ хапае на адраджэнскім шляху. Не надта спяшаліся мазыране на тэатральнае свята, больш у зале было запрошаных школьнікаў і маладых абаронцаў Бацькаўшчыны. Ці такі прыклад — назвы вуліц горада ўсё тыя ж — Савецкая, плошча Леніна... Гучыць тут мова спрэс суседняй усходняй дзяржавы, шыльды ў асноўным рускамоўныя. Няма пакуль што ніводнай беларускай школкі... І тым не менш гэты старажытны край беларусаў прачынаецца, выходзіць з забыцця. Людзі ўсвядомілі, што духоўны Чарнобыль не менш жахлівы за матэрыяльны.

**Наталля БАДЗІЛОЎСКАЯ.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**






# НОВЫЯ УРАЖАННІ ПРА НОВАГА ДУДАРАВА

*— На сваю кухню добрая гаспадыня нікога не пускае, — такімі словамі адказаў славуты драматург Аляксей Дудараў на маю просьбу адкрыць некаторыя сакрэты сваёй творчай кухні. Але прыродная ветлівасць і гасціннасць не дазволілі яму зусім адмовіцца ад сустрэчы. Адбылася наша гутарка ў службовым кабінеце старшыні Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, і сам гаспадар у строгім гарнітуры, заклапочаны рознымі справамі і тэлефоннымі званкамі мала нагадваў вольнага творцу.*

*Чыноўніцкі мундзір шчыльна хаваў тое, што рабілася ў душы драматурга. А мне хацелася бачыць менавіта творцу, нязмушанага і разняволенага. Таму ў рэчышчы нашай гаворкі ўзнікалі і фармаваліся мае ўражанні, і асоба Аляксея Дударава рабілася больш выразнай і акрэсленай. Прынамсі, для мяне.*

## Уражанне першае

— Чаму вясковага хлопца пацягнула ў тэатр? Спачатку на акцёрскі факультэт, а пасля і ў драматургію?

— Хацелася пажыць выдуманым жыццём. Як тыповы славянін я не люблю існаваць у аднастайнай побытавай рэальнасці.

**— А Вашы п'есы, яны такія рэалістычныя...**

— Мусіць, таму, што па сваім характары я, усё ж, не летуценнік, ды і выхаванне маё адпавядала рэалістычнаму мастацтву. Цяпер надышла пара эстэтычна мяняцца. І ўвогуле, я перакананы, што для творцы не павінна існаваць ніякіх эстэтычных межаў. Ёсць толькі чалавек, ягоная існасць, душа, а гэта той магніт, які ва ўсе часы прыцягвае ўвагу пісьменніка. Урэшце, нягледзячы на розныя крытычныя меркаванні наконт вобразаў і ідэалаў, галоўным героем маіх п'ес заўсёды быў звычайны чалавек.

**— Савецкі чалавек?**

— Хай сабе і савецкі. Ён быў маім сучаснікам, таму станавіўся і маім героем.

**— А тэмы падказвала жыццё?**

— Мне здавалася, што трэба пісаць пра надзённае, пра тое, што менавіта сёння хвалюе грамадства. Але грахом графаманства я сябе не ўпікну. Напісана няшмат. Я не баюся вялікіх перапынкаў паміж п'есамі.

**— Вы доўга абдумваеце новы твор?**

— Доўга. Працэс гэты складаны і можа цягнуцца гадамі. Пісаць саджуся толькі тады, калі ўяўляю ўсю канструкцыю.

**— А не перашкаджаюць тыя пасады, якія займае апошнім часам драматург Дудараў?**

— Не. Пісаць мне не перашкаджае нішто. А вось, каб жаданне гэтае ўзнікла, я гатовы на ўсё...

## Уражанне другое

— ... гатовы на ўсё...

**— Гучыць катэгарычна і даволі шматзначна. І што ж, пэўныя допінгавыя сродкі Вы выкарыстоўваеце ў Вашай творчай кухні?**

— «Чревоугодные» стымулятары мне ніколькі не дапамагаюць: ні сытная ежа, ні келіх віна. Пэўнае адчуванне голаду і смагі лепш спрыяюць маёй фантазіі. У іншых бывае наадварот. Магчыма, і я не адмаўляўся б ад паслуг Бахуса, калі б гэта спрыяла натхненню.

**— Вас прываблівае багема?**

— Не, я чалавек не багемны.

**— А прыгажуні-актрысы, таямнічы свет тэатральнай заслоны, лёгкія тэатральныя раманы, эмацыянальнасць і ўзнёсласць тэатральнага жыцця, — яны для Вас нічога не значаць?**

— На самой справе за тэатральнай заслонай хутчэй за ўсё не бліскучы свет, а шматгадовы пыл. Рамантызм знік як у жыцці, так і ў тэатры. Можа, я памыляюся. Спыталі б Вы ў мяне маладога, калі я толькі ўваходзіў у тэатр, я б праспяваў гімн у яго гонар. А цяпер... А цяпер жанчыны на вуліцах здаюцца мне значна прыгажэйшымі і цікавейшымі за любую прымадонну.

**— Тым не менш, п'есы пра каханне Вы так і не напісалі...**

— Усё наперадзе. Мне было трыццаць, калі з'явіўся «Вечар» пра старых і іх пачуцці. Магчыма, з надыходам свайго жыццёвага вечара я напішу пра маладых.

**— Вам толькі 43.**

— Мне ўжо 43.

**— І ўсё роўна Вы лічыце, што час для напісання п'есы пра каханне яшчэ не надышоў?**

— Напэўна. Мусіць, я яшчэ не магу пайсці на поўную адкрытасць і шчырасць, без якіх немагчыма расказаць пра сапраўднае каханне. Я, усё ж, сялянскі хлопец. А нашыя хлопцы — людзі стрыманыя...

**— ... і абачлівыя?.. Вам больш даспадобы існаваць ў трывалай сямейнай атмасферы. А сярод членаў Вашай сям'і існуе культ драматурга Дударава?**

— Не, не існуе. Я ўвогуле не люблю ніякіх культаў. Жонка і сын ніколі мне не перашкаджаюць. Ёсць адзіная істота, для якой няма ніякіх абмежаванняў — гэта мая дачка. Ёй тры гады, і яна карыстаецца поўнай свабодай волевыяўлення. Можа прыйсці да мяне ў кабінет, сесці на калені і працаваць разам са мной. Мне нават здаецца, што мужчына толькі тады па-сапраўднаму адчувае сябе мужчынам, калі ў яго нараджаецца дачка.

## Уражанне трэцяе

— ... мужчына становіцца мужчынам, калі ў яго нараджаецца дачка.

*Але яна ў пэўнай ступені і натхніцелька і творца, улічваючы, што душэўны стан аўтара абавязкова ўваходзіць у атмасферу твора і закладваецца ў ягонае біяполе. Як Метэрлінкаўская Міціль, трохгадовая Алеся можа паклікаць свайго тату на пошукі новай Сіняй птушкі, якая будзе падобная на нейкую чароўную мару, на той ідэал шчасця, які лунае недзе над беларускай зямлёй. А можа, гэтая Сіняя птушка шчасця падобная на нашых спрадвечных анёлаў — буслоў? Ды толькі мы самі не бачым у іхняй выяве нічога дзіўнага, а ўсведамляем іх толькі як рэаліі навакольнага асяроддзя? Хто ведае... Мае ўяўленні могуць зацягнуць мяне яшчэ і не ў такія абшары фантазіі.*

*Але я памятаю словы Дударава, што тэатр прыцягнуў яго магчымасцю выдумляць. І хаця ён па натуры, як быццам, і не летуценнік, творчыя пошукі могуць завесці куды заўгодна. Хай будзе так.*

*Мне ж застаецца толькі дадаць яшчэ некалькі сваіх уяўленняў пад заслону нашай гутаркі.*

*Дудараў любіць акцёраў і ўспрымае іх як творцаў нароўні з драматургам і рэжысёрам. Адзінае патрабаванне: тварыць у межах аўтарскай задумы.*

*Прэм'еры для Дударава — прыемная падзея, і ён не пакутуе на рэпетыцыях, а любіць удзельнічаць у пастаноўцы.*

*Яму падабаецца пісаць для сцэны, і ён заўсёды піша для таго, каб гэта было пастаўлена сёння.*

*Новыя п'есы, а іх дзве — «Песня пра Зубра» паводле Гусоўскага, сюррэалістычная «Адцуранне» — абяцаюць новыя ўражанні ад новага Дударава, бо ён настроены пачаць новы віток сваёй творчай кар'еры, якая, безумоўна, працягваецца за межамі службовых кабінетаў і чыноўніцкіх абавязкаў.*



Пра сакрэты «творчай кухні» распытвала вядучая рубрыкі Вольга ШЧАДРЫНА.

Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11127
Замова 18

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

